*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года №35 (721) 14 ВЕРАСНЯ 2005 г.

## 17-18 верасня - Міжнародны рыцарскі турнір
# "Замак Гедыміна"




Міжнародны фестываль сярэднявечнаі традыцыі і культуры "Замак Гедыміна" пройдзе 17 - 18 верасня ў Лідзе. Яго сумесна арганізуюць рэспубліканскае моладзевае грамадскае аб'яднанне "Рыцары Вялікага Княства" і Лідскі райвыканкам.

Як паведаміў 9 верасня на прэс-канферэнцыі ў Менску старшыня грамадскай арганізацыі Фёдар Міхееў, да ўдзелу ў мерапрыемстве запрошаны 40 рыцарскіх клубаў з Беларусі, краін Балтыі, Польшчы, Расіі і Украіны. Фестываль пройдзе ў Лідскім замку і на прылеглай да яго тэрыторыі. У праграме рыцарскі турнір у чатырох намінацыях (конны, лучнікаў, пешы лёгкай пяхоты XIII - XIV стагоддзяў і лагнікаў), конкурсы на лепшы жаночы і мужчынскі касцюмы і на лепшыя даспехі XIII - XVI стагоддзяў, інсцэніроўка штурму цвердзі з выкарыстаннем піратэхнікі, бугурты (групавыя баі), феерверк, выступленні каскадзёраў, шоў для гледачоў "Рыцарскі турнір", ваенныя гульні (захоп сцяга, караля і маста), канцэрт сярэднявечнай музыкі, беларускі лялечны тэатр "Батлейка", выставы асаднай тэхнікі, вырабаў народных майстроў, тканых паясоў і "Рыцарскага намёта", катанне на конях і сярэднявечны кірмаш.

Паводле слоў арганізатара коннага турніру Валянціна Ільяша, у спаборніцтве возьмуць удзел 16 вершнікаў, якія будуць спецыялі на дастаўлены з Менска. Акрамя схопкі на дзідах вершнікі на скаку будуць спаборнічаць у розных практыкаваннях на сілу і лоўкасць.

***Наш. кар.***

***На здымку:** афіша турніру беларускамоўная.*

# Прэзентацыя фотаальбома "Ліда"

8 верасня ў Лідскай музычнай школе прайшла прэзентацыя фотаальбома лідскага фотамастака Ігара Пешахонава "Ліда". Уступны тэкст кандыдата геаграфічных навук Валерыя Слівкіна.



Альбом выйшаў ў выдавецтве "Беларусь" па замове і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі накладам 2000 асобнікаў на т р обеларускай, **англійскай і польскай**.

Альбом утрымоўвае сотню здымкаў Ліды - сучасных і гістарычных.

На прэзентацыі прысутнічалі прадстаўнікі ўладаў, грамадскасці, СМІ, рыцары клуба "Дайнава". Імпрэзу на цудоўнай беларускай мове вяла Тамара Зенюкевіч.

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымку:** Ігар Пешахонаў і Тамара Зенюкевіч падчас прэзентацыі альбома.

# 11 верасня споўнілася 150 год Еўдакіму Раманаву (1855-1922)



Еўдакім Раманавіч Раманаў нарадзіўся ў мястэчку Беліца пад Гомелем у беднай местачковай сям'і. Пасля атрымання пачатковай адукацыі ў 1870 годзе заканчвае Гомельскую прагімназію. Не паступіўшы ў 1870 годзе ў Магілёўскую гімназію, многа працуе самастойна, здае экзамен на званне настаўніка народнай школы і працуе спачатку на Аршаншчыне і Сенненшчыне, а з верасня 1874 па 1876 год – у Гомельскай павятовай навучальні, і потым у розных школах Магілёўскай, Віленскай і Віцебскай губерняў.

Настойліва вывучаючы народную культуру, гісторыю і мову, Раманаў пераканаўся, што грамадскасць Расіі дрэнна ведае беларусаў і іх культуру, а таму поўнасцю аддаўся справе збірання фальклору. Паваротным для яго стаў 1886 год, калі ён становіцца інспектарам народных навучальняў Віцебскай губерні, дзе з часовымі перамяшчэннямі ў Гарадзенскую і Магілёўскую губерні, ён прапрацаваў да 1906 года. Такая пасада дала фальклярысту магчымасць шырока разгарнуць збіральніцкую і навуковую дзейнасць.

Раманаў сабраў і выдаў з 1886 па 1912 гг. дзевяць выпускаў "Беларускага зборніка" – сапраўдную энцыклапедыю фальклору і этнакультуры беларусаў. У зборніку і іншых 200-х апублікаваных працах фальклярыста больш 3700 народных песень, 2200 прыказак і прымавак, 1300 загадак, 944 замовы, 825 казак, легенд і паданняў, 778 прыпеваў, 258 духоўных вершаў, 80 апісанняў дзіцячых гульняў, 750 вераванняў і прыкмет, 200 апісанняў сродкаў народнай медыцыны і 540 тлумачэнняў сноў. У выніку Еўдакім Раманаў, як ніхто да яго, раскрыў самабытнасць фальклору і культуры беларусаў. Ён быў правадзейным членам Рускага геаграфічнага таварыства, Маскоўскага археалагічнага таварыства і Маскоўскага таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі. Апошнім неаднаразова ўзнагароджваўся медалямі за высокі ўзровень фальклорна-этнаграфічных даследаванняў.

У наш час, калі ідзе спроба адраджэння беларускай вёскі, яго запісы павінны стаць настольнымі для рэканструкцыі мясцовага фальклору невычэрпнай і адзінай крыніцы сапраўднай высокай маралі і духоўнасці беларускіх вёсак, сёл, мястэчак і гарадоў.

***Васіль Ліцьвінка.***

**Міністру замежных спраў**
**Рэспублікі Беларусь**
**Мартынаву С. М.**
**220030, г. Мінск, вул. Леніна, 19**

**Паважаны Сяргей Мікалаевіч!**

26 жніўня 2005 г. у газеце "Ежедневные новости", якая выдаецца ў горадзе Уладзівастоку (Расійская Федэрацыя) надрукаваны артыкул "Про Лукашенко всё врут" журналіста Сяргея Карнілава. Аўтар грэбліва здзекуецца з дзяржаўнай беларускай мовы, называе яе "языком литературного общения подонков". Гэтае і іншыя выказванні С. Карнілава падпадаюць пад дзеянне артыкула 172(2) Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях.

У сувязі з гэтым прапануем Вам выказаць афіцыйны пратэст з нагоды гэтага артыкула ўладам Расійскай Федэрацыі ў выглядзе ноты. Спадзяемся, што Вашы дзеянні цалкам будуць адпавядаць выказванню кіраўніка беларускай дзяржавы: *"На Беларусі ніколі не перасохнуць крыніцы народнай мудрасці, таленту, любові да роднай мовы, культуры і традыцый Бацькаўшчыны"*.

**З павагай,**
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**



№ 35 (721) 14 ВЕРАСНЯ 2005 г. Наша слова

# КАРАТКЕВІЧ У КАЛЕДЖЫ ЭЛЕКТРОНІКІ



У жніўні 2005 года разам з Аляксеям Галічам мы наведалі Менскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж электронікі. Менавіта ў гэтай навучальнай установе з 2000 года існуе музей Уладзіміра Караткевіча. Сам пачатак музея быў пакладзены яшчэ ў 1985 годзе, калі ў інтэрнаце № 2 ВА "Інтэграл" распачала працу "Гасцёўня У. Караткевіча". З сярэдзіны 90-х гадоў экспанаты "гасцёўні" знаходзіліся ў каледжы электронікі (які тады яшчэ быў вышэйшай прафесійна-тэхнічнай навучальняй, а іх колькасць пастаянна павялічвалася.

Як і любы іншы, музей Уладзіміра Караткевіча мае пастаянную экспазіцыю і фонд. Усяго у музеі больш за 150 арыгінальных экспанатаў і прыблізна столькі ж матэрыялаў дапаможнага фонду (копіі рукапісаў, фотаздымкі, кнігі...).

На адкрыцці музея прысутнічалі вядомыя беларускія пісьменнікі – сябры У. Караткевіча. Здаецца нядаўна ганаровую стужку перарэзалі дырэктар каледжа, заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь В.М. Хасін і старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў славутая Вольга Іпатава. Успамінамі падзяліўся доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс – лепшы сябра класіка айчыннай літаратуры.

Хутка бяжыць час... музей наведалі многія знакамітыя і таленавітыя асобы. Сярод іх актрыса Галіна Дзягілева, мастак Віктар Сташчанюк, мастачка Вольга Дзёмкіна, рэжысёр і педагог Валеры Мазынскі, паэты Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько – Майсюк, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, акадэмік Уладзімір Гніламёдаў.

Музей з'яўляецца сапраўдным навуковым цэнтрам і займаецца падрыхтоўкай відэаўспамінаў пра жыццё і творчасць класіка, стварае элекронную бібліятэку, большая частка якой ужо падрыхтавана навучэнкай каледжа Аленай Вальковіч, якая паспяхова паступіла ў гэтым годзе ў Беларускую акадэмію мастацтваў. За першы год электронны адрас бібліятэкі наведала больш за 13 тысяч наведвальнікаў. У яе ўключаны творы Караткевіча не толькі на беларускай мове, але і на рускай, украінскай, балгарскай, нямецкай, англійскай, французскай ды іспанскай...

Сярод унікальных экспанатаў можна назваць дзве паштоўкі, намаляваныя пісьменнікам у падарунак А. Мальдзісу і акцёрам Віцебскага тэатра, дзе былі пастаўлены дзве п'есы У. Караткевіча. Музей мае фотаздымак, зроблены пісьменнікам, камень з яго рабочага кабінета, які ляжаў у яго ў шафе, і машынапісы вершаў з праўкамі аўтара, кніга "Дзікае паляванне караля Стаха" на чэшскай мове з аўтографам класіка. Ёсць у музеі і экспанат ад Васіля Быкава з Нямеччыны. Арыгінальныя экспанаты трапілі ў музей ад сяброў, родных і блізкіх Караткевіча.

У творчай галярэі ёсць графічныя работы – ілюстрацыі да твораў генія мастакоў Міколы Купавы, Валерыя Славука, Арлена Кашкурэвіча, Пятра Драчова...

Трэба зазначыць, што музей існуе дзякуючы намаганням выкладчыка беларускай мовы, літаратуры ды стылістыкі Жаўняровіча Пятра Пятровіча. Менавіта гэты чалавек з'яўляецца генератарам ідэі стварэння музея, менавіта ён даглядае за экспанатамі, падрабязна вывучае іх гісторыю і імкнецца развіць цікавасць навучэнцаў не толькі да творчасці У. Караткевіча (1930-1984), але і да гісторыі Бацькаўшчыны ўвогуле.

Пётр Пятровіч працуе над дысертацыяй. Яго вельмі часта можна сустрэць у сталічным Доме літаратара. Сюды ён прыводзіць і студэнтаў.

Спадар Жаўняровіч – актыўны ўдзельнік розных навуковых мерапрыемстваў і канферэнцый. Ён знаёмы з многімі дзеячамі беларускай культуры і навукі, а некаторыя навучэнцы называюць яго "наш прафесар".

Дапамогу загадчыку музея аказваюць дзяўчаты і хлопцы – сябры рады музея Уладзіміра Караткевіча. Яны працуюць у бібліятэках, наведваюць мясціны, што звязаны з жыццём класіка беларускай літаратуры, займаюцца абнаўленнем экспазіцыі, упарадкоўваннем фонда і іншымі навуковымі пытаннямі.

У бліжэйшых планах славутага літаратуразнаўцы Жаўняровіча - наведванне святочных мерапрыемстваў з нагоды 75-годдзя У.С. Караткевіча. Ён паедзе ў Воршу. Менавіта тут адбудуцца ўрачыстасці ў дзень народзінаў класіка 26 лістапада.

Усё меней застаецца родных У.С. Караткевіча. Адыходзяць яго аднакласнікі, сябры... Класік не пакінуў пасля сябе дзяцей ды унукаў, але ўсе мы, жыхары Беларусі, з'яўляеся сваякамі нашага любімага Караткевіча!

Дзякуючы П.П. Жаўняровічу музей У.С. Караткевіча стаў своеасаблівым цэнтрам вучэбна-выхаваўчай работы, на яго базе апрабоўваюцца новыя методыкі вывучэння творчасці Караткевіча і беларускай літаратуры!

Трэба адзначыць, што музей мае і свае праблемы. Адной з іх з'яўляецца тое, што буйнейшы асяродак культуры (на Паўднёвым Захадзе г. Менска адзіны) падпарадкаваны не Міністэрству культуры, а выкарыстоўвае базу навучальнай установы. Спадара Жаўняровіча запрашаюць выкладаць у розныя навучальныя ўстановы Беларусі і замежжа, але ён разумее, што калі пакіне сваё дзіцяня – музей, яго можа напаткаць лёс музея, які заснаваў Апанас Цыхун (1910-2005).

Перыядычны друк краіны некалькі разоў асвятляў дзейнасць музея ў каледжы электронікі. "Наша слова" піша на гэту тэму ўпершыню, у сувязі з гэтым ёсць магчымасць звязацца з установай. Яе адрас: *http://uladzimir-karatkevich. iatp. by.*

*Аляксей Шалахоўскі.*

# *Чырвонае і чорнае*




Кожнае пажыццёвае выданне апостала беларускае нацыі Васіля Быкава выклікае пільную ўвагу чытачоў. У гэтым шэрагу і кнігі, якія выходзяць у суседніх краінах.

Наш карэспандэнт сустрэўся з укладальнікам тома "Василь Быков. Афганец" літаратарам і выдаўцом Уладзімірам Сіўчыкавым.

***— Спадар Уладзімір, калі ласка, колькі словаў пра гісторыю гэтага тома...***

— Два гады таму маскоўскае выдавецтва "Мартин" прапанавала мне скласці для серыі "Современная проза" том быкаўскіх твораў. Летась ён выйшаў пад назваю "Избранное" і, мабыць, таму быў прыхільна сустрэты публікаю, што ўвайшлі ў яго, як хрэстаматыйныя аповесці, так і прыпавесці і апавяданні, якія расейскі чытач бачыў упершыню. Была прапанова скласці яшчэ адзін том, але потым "Мартин" збаяўся выпускаць яго – маўляў, рынак перанасычаны тамамі Быкава з-за пірацкіх, не санкцыянаваных спадкаемцамі выданняў некаторых расейскіх выдавецтваў. Давялося звярнуцца на "Вагриус", які мае надзвычай высокае рэнамэ і з якім даўно супрацоўнічаю.

***— Вы задаволены томам?***

— Шкада, што рэдактар палічыў, што выданне будзе выглядаць больш цэльным, калі ўключыць у яго толькі аповесці. Таму чытач не пабачыў позніх апавяданняў і прыпавесцяў, а таксама фотаздымкаў і аўтарскіх малюнкаў майстра. Спадзяюся, гэта ў пэўнай ступені кампенсуецца ўдалай вокладкай у напружаных, чырвона-чорных, характэрных для быкаўскай прозы. танах, а таксама выдатным паліграфічным выкананнем.

***— Спадзявацьмемся, што неапублікаванае патрапіць ў трэцюю, складзеную Вамі кнігу, але якія творы ўвайшлі ў гэтую?***

— "Аблава" ў аўтарызаваным перакладзе Валянціна Тараса, якую русісты ўключаюць у школьныя праграмы поруч з творамі Віктара Астаф'ева, Юрыя Бондарава, Васілія Бялова і Валянціна Распуціна і "забываюць" пазначыць, што Быкаў пісаў па-беларуску! "Кар'ер", які, лічу, недаацэнены чытачамі і крытыкай. Лірыка-драматычная аповесць "Палюбі мяне, салдацік..." пра першае каханне і гібель беларускай дзяўчыны напрыканцы вайны. І, зразумела, "Афганец", у якім аповяд ідзе пра чалавека, што вярнуўся з вайны ў Афганістане, але, як і некаторыя іншыя быкаўскія героі, стаіць перад надзвычай цяжкім маральным выбарам.

***— Здаецца, "Афганец" ужо друкаваўся па-руску?***

— Так. Аповесць уваходзіла ў зборнік "Парадоксы жыцця", выдадзены летась "Беллітфондам".

Практычна аднначасова з нашым томам пабачыў свет міньён маскоўскага выдавецтва "Время", у якім твор выйшаў пад назваю "Время шакалов". Пра бясспрэчную актуальнасць аповесці сведчыць і тое, што на рускую мову яна перакладзена ўжо тройчы – масквічкай Наталляй Ігруновай і мінчукамі Віктарам Ледзянёвым і Ірынай Шаўляковай.

***— "Афганец" патрапіць на Беларусь?***

— Покуль у краіне ёсць некалькі дзесяткаў асобнікаў. Несумненна, будуць яшчэ завозы, а таксама міжвыдавецкія абмены. А на Беларускім вакзале ў Маскве том прадаецца як гарачыя смажні.

***— Дзякуй Вам за гутарку! Творчага і вытворчага плёну!***

# Да Дня беларускай вайсковай славы

У ноч з 3 на 4 верасня пад Оршай, на Крапівенскім полі, прайшло традыцыйнае святкаванне Дня беларускай вайсковай славы.

Як паведаміў БелаПАН адзін з арганізатараў свята Алесь Шутаў, на фестываль сабралася каля 200 чалавек — прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці з Оршы, Барані, Магілёва, Віцебска, Менска і іншых гарадоў Беларусі. Свята пачалося з набажэнства, якое правялі праваслаўны і грэка-каталіцкі святары. Традыцыйную аршанскую карону, асвечаную двума святарамі, на гэты раз атрымаў літаратар і бард Андрэй Хадановіч.

Свята прайшло пад наглядам супрацоўнікаў міліцыі. Паводле слоў яго ўдзельнікаў, міліцыі было больш, чым у мінулыя гады, — тры машыны замест звычайных дзвюх. Тым не меней супрацоўнікі міліцыі ў святкаванне не ўмешваліся.

***Сяргей ПУЛЬША, БелаПАН.***

Вечар, прысвечаны 491-й гадавіне перамогі беларускага войска на чале з вялікім гетманам Вялікага Княства Літоўскага Канстанцінам Астрожскім над арміяй Вялікага Княства Маскоўскага на рацэ Крапіўне пад Оршай, прайшоў у Менску 8 верасня.

Адкрываючы мерапрыемства, беларускі мастак Мікола Купава зазначыў, што вычын герояў Аршанскай бітвы 1514 года, якія разграмілі ўтрая большае войска Маскоўскай дзяржавы, заўсёды будзе зіхацець яркай старонкай у гісторыі Беларусі і асвятляць шлях цяперашняму і наступнаму пакаленням патрыётаў.

Вядомы беларускі гісторык Алег Трусаў нагадаў, што ў канцы 1980-х гадоў яму ўдалося атрымаць ад сваіх польскіх калег слайд з выявай батальнай карціны невядомага мастака "Бітва пад Оршай", якая была напісана алеем у 1520 годзе і зараз знаходзіцца ў фондах Нацыянальнага музея ў Варшаве. "На гэтай карціне, упершыню апублікаванай у часопісе "Мастацтва Беларусі" ў канцы 80-х, прысутнічае першая каляровая выява бел-чырвона-белых вымпелаў на дзідах конніцы Астрожскага", — сказаў А. Трусаў. Гісторык выказаў надзею, што з гадамі на Крапіўненскім полі будзе пабудаваны мемарыял, "годны слаўных продкаў сучасных беларусаў".

Прафесар А. Грыцкевіч лічыць неабходным стварэнне энцыклапедыі Аршанскай бітвы, апублікаванне ўсіх наяўных дакументаў, у тым ліку спісаў палонных воінаў Маскоўскай дзяржавы, а таксама мемуараў XVI стагоддзя.

Удзельнікі вечара азнаёміліся з выставай, якая год таму была створана стараннямі юных мастакоў з розных рэгіёнаў краіны і прысвечана 490-годдзю Аршанскай бітвы.

***М. ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# Нам не патрэбна рускамоўная хваля

## Зварот

### “Аб радыёстанцы Deutsche Welle”

**Канцлеру Федэратыўнай Рэспублікі Германія,**
**у Бундастаг Федэратыўнай Рэспублікі Германія,**
**у Бундасрат Федэратыўнай Рэспублікі Германія,**
**да палітычных партый Германіі,**
**у Фонд Адэнаўэра**

**Шаноўны спадар Канцлер, шаноўнае Спадарства!**

Мы, удзельнікі Чацвёртага з'езду беларусаў свету МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, удзячны нямецкаму ўраду і нямецкім грамадскім арганізацыям за спрыянне ў дэмакратызацыі беларусі і дапамогу ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Выказваем падзяку кіраўніцтву Нямецкага адукацыйнага цэнтра IBB (Менск, Беларусь), дзе адбыўся З'езд.

З'яўляючыся прадстаўнікамі беларускай сусветнай супольнасці, мы вымушаны звярнуцца да Вас, каб выправіць яўнае непаразуменне. У кастрычніку г.г. Радыёстанцыя **Deutsche Welle** пачынае вяшчанне на Беларусь, што несумненна палепшыць інфармацыйнае поле Беларусі. Аднак Радыёстанцыя **Deutsche Welle** плануе весці трансляцыю на рускай мове.

Па апошнім перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь (1999 г.) 73% жыхароў Беларусі назвалі роднай мовай беларускую, у штодзённым жыцці карыстаюцца беларускай мовай 37% грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Карыстаючыся рускай мовай у трансляцыі на Беларусь, Радыёстаныя **Deutsche Welle** будзе спрыяць русіфікацыі беларускага грамадства, далейшай дыскрымінацыі беларускай мовы і знішчэнню падмуркаў нашай культуры.

Радыёстацыя **Deutsche Welle** ўжо мае практыку вяшчання на нацыянальнай мове ў краінах постсавецкага лагеру, напрыклад ва Украіне. Спадзяемся, што гэтая практыка захаваецца і будзе развівацца і ў дачыненні да Беларусі.

Беларусы шчыра жадаюць жыць у вольным, дэмакратычным грамадстве, але дэмакратыя ў Беларусі немагчымая без павагі да культуры тытульнай нацыі краіны. Мы жадаем міру і шчасця народу Германіі і спадзяемся на разуменне і спрыянне высокага кіраўніцтва Нямецкай Рэспублікі.

З павагай,
**Удзельнікі Чацвёртага з'езду беларусаў свету МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.**
**Менск, 16-17 ліпеня 2005 г.**

## “НЕ!” нямецкай русіфікацыі Беларусі

***Часоваму Паверанаму ў справах Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь Яну Канторчыку накіраваны ліст Управы Беларускага грамадскага аб'яднання “Ветэраны адраджэння”, у якім у прыватнасці гаворыцца:***

“У часы больш як стогадовай акупацыі Беларусі царскай Расіяй было забаронена ўжыванне беларускай мовы і праводзілася жорсткая русіфікацыя. У гады Першай сусветнай вайны акупацыйныя ўлады кайзераўскай Германіі надалі беларускай мове статус афіцыйнай, дазволілі адукацыю на беларускай мове і нават спрыялі развіццю беларускай культуры. Наступіўшы затым акупацыйны камуністычны рэжым зноў вярнуўся да палітыкі русіфікацыі беларускага народу.

Намі атрымана інфармацыя, што радыёстанцыя “Deutsche Welle” плануе распачаць на Беларусь рускамоўнае вяшчанне. Ні кайзераўская, ні нават фашыстоўская Германія ніколі не спрыялі русіфікацыі беларусаў. Выклікае наша бязмежнае здзіўленне і абурэнне, што да гэтага хоча спрычыніцца Германія дэмакратычная.

Не – русіфікацыі Беларусі!
Жыве Беларусь!”

***Па даручэнні Управы Беларускага грамадскага аб'яднання “Ветэраны адраджэння” ліст падпісаў старшыня аб'яднання – М. М. Чарняўскі.***

## ЕЎРАКАМІСІЯ АБ'ЯВІЛА ТЭНДАР ПРАЕКТУ РАДЫЁ- І ТЭЛЕВЯШЧАННЯ НА БЕЛАРУСЬ

9 верасня Еўракамісія аб'явіла аб тэндары праекту радыё- і тэлевяшчання на Беларусь у мэтах павелічэння доступу да незалежных крыніц інфармацыі і навін у краіне.

Як паведамляецца ў прэс-рэлізе Еўракамісіі, з 1 студзеня 2006 года пачнецца радыё- і тэлевяшчанне на тэрыторыю Беларусі на **беларускай і рускай мовах**. Сума ў два мільёны еўра выдзяляецца на два гады. Падаваць заяўкі на ўдзел у тэндары можна да 11 кастрычніка. Удзельнічаць у конкурсе могуць як прыватныя тэлерадыёвяшчальныя кампаніі, так і кансорцыюмы, якія ўжо працуюць на тэрыторыі сумежных з Беларуссю рэгіёнаў. Гадавы абарот такіх кампаній павінен складаць не менш чым тры мільёны еўра.

Мэта праекту — “забяспечыць беларусаў незалежнай інфармацыяй аб падзеях у Беларусі і іншых краінах свету, павысіць інфармаванасць у пытаннях дэмакратыі, вяршэнства закону, плюралізму, свабоды СМІ і правоў чалавека”.

Камісар ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы добрасуседства Беніта Фэрэра-Вальднер лічыць “сваім абавязкам дапамагаць беларусам”, адзначаецца ў прэс-рэлізе.

Усяго ў бюджэце Еўрапейскай палітыкі добрасуседства ў 2005 годзе на беларускія праграмы плануецца выдзеліць 8,7 мільёна еўра.

Гэта ўжо другі такі тэндар, які праводзіць ЕС. Першы, у памеры 138 тысяч еўра, выйграў у жніўні праект рускамоўнай праграмы радыёстанцыі “Нямецкая хваля”. 15-хвілінная праграма пачне выходзіць у эфіры гэтай радыёстанцыі з 1 лістапада.

Акрамя таго пра свой намер арганізаваць **беларускамоўнае** радыёвяшчанне на Беларусь заявіла Польшча, якая збіраецца прадставіць у Еўракамісію адпаведны праект.

Польскі ўрад ужо выдзеліў пад яго 240 тысяч еўра.

***М. РАХЛЕЙ, БелаПАН.***

Надзвычайнаму і паўнамоцнаму паслу Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь

**доктару Марціну Хекеру**

220034, г. Мінск, вул. Захарава, 26

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама беларусы, грамадзяне іншых краін свету, станоўча ставімся да выхаду ў свет восенню гэтага года спецыяльнай праграмы радыёстанцыі “Нямецкая Хваля” для Беларусі. Аднак нас хвалюе той факт, што ў адрозненне ад адпаведных праграмаў у ЗША, Польшчы, Швецыі і іншых краін яна чамусьці будзе весціся на мове суседняй краіны, якая ў свой час захапіла Беларусь і праводзіла палітыку жорсткай русіфікацыі.

Улічваючы вынік апошняга перапісу насельніцтва Беларусі, у адпаведнасці з якім 73,6% грамадзян нашай краіны (сярод іх амаль паўмільёна чалавек не беларусаў) назвалі сваёй роднай мовай беларускую, прапануем адразу распачаць гэтую праграму на беларускай мове, мове Францішка Скарыны і Льва Сапегі, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава.

Мы спадзяёмся на станоўчае вырашэнне гэтага пытання.

| № | Прозвішча, імя | Адрас пражывання | Дата падпісання | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |
| 5 | | | | |
| 6 | | | | |
| 7 | | | | |
| 8 | | | | |
| 9 | | | | |
| 10 | | | | |

